Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 250.000 м.

# Голас Беларуса

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць два разы у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 3.000000 м.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 400.000 мк., сярод тэксту 300.000 м. і на 4 стр. 250.000 м., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 7. Вільня, Чацьвер, 6-га сакавіка 1924 г. Год I.

## 2-га—9-га сакавіка Міжнародны Тыдзень Работніцы.

### Да аднае мэты.

Увесь гэты тыдзень пасьвячоны жанчыне-работніцы. Вось-жа, выясьніўшы ў тым нумары ў радзе стацьцей і заметак палажэньне жанчыны ў сучасных грамадзянствах, а такжа ролю яе ў нашым сацыяльным і нацыянальным руху, мы павінны цяпер намеціць сабе дарогу, па якой павінна йсьці ў нас праца сярод жанок і дзяўчат.

Паўторым перш за ўсё йшчэ раз, што вызваленьне жанчыны ад тае няволі, ў якой яна ўсё яшчэ пакутуе, магчыма толькі пры поўнай перамозе Працы над Капіталам. Але і ў мамэнт такое перамогі палажэньне жанчыны можа рашуча зьмяніцца толькі тады, *калі яна будзе гатова ўзяць сваё права і сваю волю.* Да яе адносіцца той самы закон, які выяўляецца пры кожнай рэвалюцыі: што народ, які паўстаў дзеля здабыцьця волі, толькі тады дасягне свае мэты, калі будзе здольны ня толькі перамагчы ворагаў, але і *ўдзяржаць* здабытую волю.

Вось-жа, стаўляючы на першым месцы заданьне *ўвясьці жанчыну ў агульна-работніцкае клясавае змаганьне*, мы павінны старацца адначасна даць ей *школу* дзеля падгатаваньня яе да актыўнае грамадзкае працы і да ўчасьця ў кіраваньні сваей доляй нароўні з таварышам-мужчынай. Такую школу яна можа знайсьці, як у профэсіянальных работніцкіх арганізацыях, так і ў-ва ўсіх тых установах, што апіраюцца *на самадзейнасьці масы*: ў каапэратывах, у розных культурных і дабрачынных арганізацыях, урэшце — ў самаўрадах. Ці-то будуць адбывацца выбары ў гмінныя рады, ці ў сойм,—жанчыны павінны йсьці на іх грамадой поплеч з мужчынамі, даючы свой голас за тых, хто запраўды змагаецца за волю і ўладу працоўных масаў. Грамадзкай школай для жанчыны могуць служыць нават і такія — на пагляд, „нясур'ёзныя“, але ўсё-ж такі важныя і патрэбныя арганізацыі, як гурткі драматычныя ці сьпявацкія, якія зьяўляюцца першай і найлягчэйшай формай грамадзкае дзейнасьці, галоўным чынам у вёсцы ці мястэчку.

Шырока пашырана перакананьне, што найлепшай дарогай да вызваленьня жанчыны зьяўляюцца чыста жаноцкія арганізацыі. Гэта ня зусім так, і мы павінны ясна і выразна паставіць справу на належным грунце. Ведама, жаноцкія гурткі, якія гуртуюць жанчын дзеля тае ці іншае супольнае справы, рэч дужа карысная. Але ніколі ня трэба забывацца, што гэта—толькі *спосаб дайсьці да жанчыны* і збудзіць яе зо-сну, што выдзяленьне жанчын з агульнага вызваленчага руху ў нешта абасобленае ня толькі ня можа быць *мэтай*, але, наадварот, можа аказацца шкодным, калі ня будзе захавана самая цесная сувязь з працоўнымі масамі наагул. Толькі ўліваючыся ў агульнае русло работніцкага руху, жанчына здолее запраўды прылажыць сваю руку да свайго вызваленьня, і толькі пры такой еднасьці агульна-пралетарскае змаганьне здолее, як сьлед, падтрымаць інтарэсы і імкненьні работніцы-жанчыны. Інакчай жаноцкі рух вырадзіцца ў нешта вузкое, аднабокае і—бязсільнае.

І—ў свой чарод — рабачаі-мужчыны павінны вясьці актыўную працу над буджэньнем чалавечае і сацыяльнае сьвядомасьці ў нашае жанчыны. У нашы дні жанчына ўжо сталася таварышам мужчыны ў шмат якіх галінах працы. І сьвядомы барацьбіт за вызваленьне працоўных масаў ня мае права прайсьці міма гэнага таварыша-жанчыны, не пастараўшыся расчыніць ей вочы на яе палажэньне і спосаб барацьбы за лепшую будучыну. Тады і тыя масы жанчын, якіх цяцер так часта вядуць за аброць розныя фальшывыя пракрокі — слугі Мамона, здолеюць урэшце скінуць з сваей душы шкодны туман, што яе ахутаў, здолеюць ясна ўбачыць адзіную для ўсіх рабачаяў аканчальную мэту і з поўнай сьвядомасьцяй пайсьці па шляху свайго вызваленьня ад усіх відаў сучаснае жаноцкае няволі.

Хай-жа гэты міжнародны тыдзень работніцы ўзмацуе працу дзеля ўсьведамленьня нашых працоўных жанчын, хай дапаможа ўвясьці жанчыну ў агульнае русло барацьбы работнікаў за сваё сацыяльнае і духвае вызваленьне!

Да працы, жанкі і мужчыны! Ваша мэта—адна, няхай жа будзе адна і дарога!

### Профэсыянальная асьвета сярод работніц у Радавых Рэспубліках.

Словы Леніна, што „эканамічная няволя жанчыны счэзьне толькі тады, калі жанчына здабудзе профэсыянальную кваліфікацыю“, падцьвярджаецца цяпер на досьледзе ў Радавых Рэспубліках.

Справа вызваленьня жанчыны мае цяпер асаблівае значэньне ў Радавых Рэспубліках—краіне пераважна сельска-гаспадарчай, з слаба разьвітою прамысловай тэхнікай. Большасьць жанчын—гэта мала кваліфікаваныя сілы. Адгэтуль нізкая роўня заработнай платы. Дзеля паляпшэньня быту жанчын закладзена шмат профэсыянальных школаў, дзе кабеты прыймаюцца нараўні з мужчынамі. У школах мэталічнай прамысловасьці ёсьць каля 12.000 вучняў у тым ліку толькі 150 жанчын, у тэкстальнай прамысловасьці 50% вучняў складаюць кабеты, а ў кравецкіх аж 90%. У сярэднім у школах знаходзіцца 20% жанчын.

Зарганізаваны таксама кароткатэрміновыя курсы для безработных жанчын, каб даць ім профэсыянальную падгатоўку ў тых галінах, дзе адчуваецца нястача рабочых сілаў, як у кравецтве, крою, вырабе панчохаў і г. д. Таксама зарганізаваны курсы ахароны мацярынства, малых дзяцей і акушэрства. Але найцікавейшаю спробаю профэсыянальнай асьветы зьяўляюцца электротэхнічныя курсы для работніц ў Маскве. Закладзены яны ў 1921 г., як кіно-мэханічныя курсы, на якія запісалася 50 кабет. Праз 7 месяцаў з гэтай лічбы 21 скончылі курсы і зараз-жа атрымалі працу ў кінах або мэханічных фабрыках. 8 з іх былі прыняты да вялікіх электротэхнічных фабрык, як памоцніцы манцёраў, а 6, як самадзельныя працаўніцы.

У кастрычніку 1922 г. створаны новыя курсы. Зімою вучаніцы працуюць у сьлесарскіх і такарскіх варштатах, а ў другім паўгодзьдзі працуюць у электротэхнічным інстытуце Мендэлеева, зарабляючы на пражыцьцё.

Пасьпех гэтых курсаў даказаў, што жанчыны здольны да выкваліфікованай працы, выклікаў зацікаўленнасьць і ініцыятыву сярод работніц. Усё больш прадуктыўная праца ставіць жанчыну нараўне з мужчынай, аблягчае ёй барацьбу за істнаваньне.

### Ці толькі—спадчына „кернічызны“.

(Гл. „Голас Беларуса“ № 5).

#### Законапраекты аб самаўрадзе ў Польскай Рэспубліцы.

Гэткім чынам мы пазнаёміліся з агульным характарам законапраектаў, з тымі мэтамі і мэтадамі фальшаваньня ідэі, сэнсу, сілы і права народнага самаўраду, якое пакладзена польскім урадовым законапісцам *і прынята польскім законадаўцам, як аснова будучага закону.*

Кожнаму ясна, што гэткі „самаўрад“ аканчальна і бэзапэляцыйна паняволівае нашае сялянскае грамадзянства паліцэйскай уладзе адміністрацыі,—у асобе старосты і яго агентаў; што праекты п.п. Керніка і Солтана зьяўляюцца выразным *законам проці самаўраду* мясцовага насяленьня, або—наадварот: законам аб нічым не абмежаванай *самаволі ў гміне старосты* і ўсіх тых, каго ён на гэта ад сябе ўпаўнаважыць.

---

Мы разгледзелі падрабязна ўсе тыя спосабы, якімі праект замяняе самаўрад насяленьня самаволяй старосты ў вясковай гміне.

Каб скончыць з гміннымі Уставамі, трэба азначыць, што вясковая гміна не зьяўляецца найменшай і найбліжэйшай да насяленьня адзінкай у зложнай пірамідзе спраектаванага „самаўраду“.

Найменшай цэглінай у гэтай запраўднай ягіпецкай пірамідзе, на вяршыні якой сядзіць п. Міністар унутраных спраў, пад ім, на розных паверхах,—п.п. ваявода і староста, пірамідзе, якая мае мэтай *задушыць усялякую самастойнасьць і самадзейнасьць* народу,—зьяўляецца гэтак званая ў праекце „грамада“.

Арганізацыя і компэтэнцыя (вобласьць і межы правоў і дзеяльнасьці) гэтай грамады зусім падобны гмінным; розьніца толькі ў тым, апроч меншага абшару (гміна зьяўляецца чымсь у родзе саюзу грамад),—што „заданьні грамады выключна самаўрадавыя“, тады калі на гмінны самаўрад праект накладае, апроч таго, і гэтак званыя „даручаныя заданьні“, у якіх самаўрадавыя ўстановы зьяўляюцца „выканаўчым органам дзяржавы“—ў тэй ці іншай галіне, пераважна — паліцэйскай...

Органам грамады зьяўляецца Грамадзкая Рада, (у грамадах, дзе сяброў ня больш 50—Грамадзкае Сабраньне); і Грамадзкая Управа з солтысам на чале...

Адносіны паміж гэтымі ўстановамі грамады, а таксама паміж імі і наглядная улады—зусім ня розьняцца ад гмінных: запраўднага самаўраду і тут, зразумела, няма ані ценю...

Дробная розьніца—толькі ў тым, што солтысам можа аказацца і беларус, бо „наглядная ўлада“ (чытай: п. староста) можа „ў прыпадках, заслугоўваючых на ўвагу“, звольніць кандыдата на солтыса ад вымаганага законапраектам „валаданьня польскай мовай“.. (арт. 122).

Ведама ж,—якім верным слугой п. старосты павінен быць гэты беларус, каб той дапусьціў яго да „выбару бяз польскай мовы“!..

#### Выбары ў павятовы соймік.

Сябры павятовага сойміку выбіраюцца спаміж радных гміны. Калі ў выбарны вокруг уваходзяць некалькі гмінаў, дык выбары адбываюцца на агульным зьездзе ўсіх Радаў—у месцы, назначаным ваяводай.

Трэба падкрэсьліць, што фактычна для выбараў *непатрэбна ніякага кворуму* (сталай найменшай для важнасьці выбараў лічбы прысутных сябраў), бо „на наступным паседжаньні (сьцісла ня сказана, *калі* гэтае паўторнае паседжаньне павінна быць назначана) пасьля першага, для якога кворум азначаны—паловы ўсяго ліку радных, выбары адбываюцца пры ўсякім ліку Рады... Выбарная камісія складаецца з войта найлічнейшай гміны і *праз яго назначаных* яшчэ 3 сяброў з ліку прысутных радных.

